# КРЫВІНКА

ЧЭРВЕНЬ
№10 (128)
2013 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА

”Нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай мовай”.
**Ул. Караткевіч.**



**Партал твайго горада: http://beshankovichy.by**

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## БАСЕЙН У БЕШАНКОВІЧАХ

Пра тое, што ў Бешанковічах пабудуюць басейн, упершыню абвесціў старшыня райвыканкама Л.Пянькоўскі яшчэ ў верасні 2011-га года пры адкрыцці абноўленага раённага Дома культуры. Тады ж гэту інфармацыю падхапіла і дзяржпрэса. Да прыкладу, газета “Віцебскі рабочы” тады ж напісала: “Новы аб’ект будзе садзейнічаць умацаванню здароўя жыхароў раёна, а таксама дазволіць ім з карысцю праводзіць свой вольны час. Вельмі хутка басейн запраектуюць, і ўжо ў 2012-м за справу возьмуцца будаўнікі, паведаміў дэпутат Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў Аляксей Мацюшка, які выступаў перад жыхарамі райцэнтра. Зяго словаў, фінансаванне работ будзе ажыццяўляцца з рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў. Увесці аб’ект у эксплуатацыю плануецца ў 2013-м годзе.”

І вось 2013-ы год хутка падыдзе да свайго экватару, а будаўніцтва басейна ў Бешанковічах яшчэ не распачалося. І, калі меркаваць па шматлікіх ускосных прызнаках, сёлета так і не распачнецца. Грошай, патрэбных на будаўніцтва басейна, хапіла толькі на яго праектна-каштарысную дакументацыю.

Падобна на тое, што раён, які лічыцца ў вобласці адным з лідэраў па сельгасвытворчасці, не можа знайсці на тое сродкі. Навошта тады гучна заяўляць, што аб’ект пабудуюць? А калі заявілі, то будуйце, трымайце слова.

Але галоўнае не тое. Галоўнае, што гэты аб’ект ніхто з жыхароў раёна не замаўляў. Яго будаўніцтва стаіць у тым жа шэрагу, што і будаўніцтва лядовых палацаў – зацвержана дырэктывай кіраўніка краіны.

Ніхто не спрачаецца, што нам патрэбны і палацы і басейны. Але яны патрэбны нам, жыхарам райцэнтра, у першую чаргу дзецям. А, калі меркаваць па задуме (пабудаваць басейн пры гасцініцы з нумарамі “люкс”і кафэ), то становіцца зразумела, што не пра народнае здароўе ідзе клопат. А пра тых, хто прыязджае да нас з тоўстымі кашалькамі. У супрацьлеглым выпадку басейн даўно ўжо мелі б і СШ №1 і СШ №2 райцэнтра. Бо вядома, што толькі нязначны працэнт дзетак у наш час растуць здаровымі. А дзе ж ім набыць тое здароўе, як не ў басейне?

І яшчэ. Чыноўнікі, гладка распісаўшыя працэс пабудовы басейна на паперы, паспелі прынесці раёну нямалую шкоду. Размова ідзе пра некалькіх кіёскаў, што былі знесены з-за маючага распачацца неўзабаве будаўніцтва. Прадпрымальнікі, якія мелі тыя кіёскі, мусілі часова прыпыняць сваю справу і несці непатрэбныя выдаткі. У выніку яны атрымалі месцы для гандлю са значна горшымі ўмовамі, а некаторыя так і не рызыкнулі весці свой бізнес далей. Працуючы на старых месцах яшчэ цэлы год ці нават больш, яны змаглі б не толькі умацаваць свой бізнес, але і сплаціць вялікія грошы ў якасці падаткаў дзяржаве. Якіх сёння не хапае не толькі для будаўніцтва басейна.

ПРАБЛЕМЫ ДЗЯРЖГАНДЛЮ

## МАГАЗІН “СМАЧНЫ”

Чамусьці на ўваходнай шыльдзе, што вісіць пры дзвярах гэтай крамы, зроблена памылка. Да беларускага слова “смачны” дабаўлена “й”. Атрымалася смачная трасянка, не болей. Бо на рускай мове такога слова проста не існуе. Ды лепш так, чым нічога беларускага, як на бальшыні дзяржаўных крамаў у Бешанковічах.

Я завітаў сюды, каб набыць цукерак. Яны тут не расфасаваныя, бо ў гэтай краме спецыяльнага фасавальніка няма. Таму яны месцяцца далёка ад пакупніка за спінай у прадавачкі. Кошты цукерак бачныя добра, а вось за што тыя грошы аддаеш – назва цукерак – на такой адлегласці (за два з паловай метры) не чытабельная нават праз мае лінзы, патрэбны хаця б слабенькі бінокль. На маю заўвагу, што тое нязручна для пакупніка, паследаваў адказ прадавачак: “Мы вам усё прачытаем, нам усё бачна добра.” Мо і так. Але калі пакупнік не адзін, а іх шмат, то кожнаму не начытаеш, не хопіць часу. Чаму б не напісаць назвы цукерак буйнейшымі літарамі? Адказваюць: “Нам такія дасылае начальства. У іх стандартныя цэннікі.”

Стаю, слухаю, як мне распавядаюць пра назвы цукерак, а проста ў галаву дзьме з кандыцыянера, што вісіць якраз насупраць пакупніка. Хвілінку цярплю, потым кажу, што мне тут стаяць няўтульна, калі проста ў галаву дзьме халоднае паветра. Прадавачкі лічаць тое за чарговую прыдзірку, а таму смяюцца. Ну як жа, ім то ў вушы не дзьме. Я саступаю метр убок, так камфортней.

Вось і ўся гісторыя. Застаецца дадаць, што ў гэтай краме працуе згуртаваны калектыў прадавачак. Яны стараюцца ветліва і хутчэй абслужыць пакупнікоў. Але па выходным у магазіне зазвычай вялізная чарга, трапіўшы ў якую згубіш 15 – 20 хвілінаў. Бо адзіны тэрмінал не спраўляецца з разлікам кліентаў. Другі ўжо даўно не працуе, і калі запрацуе – невядома. Паўгода, калі не больш, шукаюць нейкую рэдкую запчастку. Пэўна, ужо хутка і знойдуць. Але за цукеркамі сюды больш я не пайду. У любой іншай райцэнтраўскай краме іхнія назвы можна прачытаць самому, а то і ўзяць у рукі, паразважаць, якія цукеркі лепш выбраць. Спраўдзіць тэрмін захавання і вытворцу. Так, як тут, у “Смачным”, выбіраеш хлеб, што ляжыць проста перад табой. Можаш выбраць любую буханку, якая да густу. Магчыма, калі б тая крама была прыватнай, пра пакупніка тут паклапаціліся б больш.

**Г.Станкевіч**

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## БЕШАНКОВІЦКІ СТАДЫЁН

Першае, што кідаецца ў вочы, калі сюды завітваеш, гэта роўненька падстрыжаны газон з белай канюшынай, на які не ступала нага чалавека. Вось гэта мяне і насцярожыла: як так, на вуліцы разгар лета, самая што ні ёсць футбольная пара, а газон футбольнага поля нечапаны. Але яно так і ёсць: у Бешанковічах на футбольным стадыёне ў футбол ніхто не гуляе. Цягам навучальнага года па дарожцы наўкол стадыёна рэгулярна бегаюць школьнікі, тут праводзяцца спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы. А вось пра футбол штосьці не чуваць.

Але трыбуны стадыёна ў панядзелак 24-га чэрвеня былі літаральна завалены пустой тарай з-пад гарэлкі, піва і віна. Я пацікавіўся ў дырэктара спортшколы М.Талстога, ці не памыляюся я наконт спаборніцтваў. Адказ быў адназначны: “Не, ніякіх спаборніцтваў у нядзелю там не было.”

Тое, што футбольны стадыён у Бешанковічах пераўтвараўся ў месца сустрэчы алкаголікаў, дзе ў зацішку распіваецца гарэлка, даўно ўжо не сакрэт. Але на тое чамусьці закрывае вочы мясцовая ўлада. Яна робіць выгляд, што ў нас усё нармальна. Нібыта той стадыён і прадназначаны для п’янства. Нібыта ў мясцовым РАУС няма ніводнай машыны, каб пару разоў на дзень пракантраляваць сітуацыю. А як жа! Гэта ж распіццё гарэлкі ў грамадскім месцы!

Сюды ніколі не ступае нага райвыканкамаўскага чыноўніка, хоць стадыён ляжыць ад іхніх утульных кабінетаў за нейкіх 300 метраў. Хаця я крыху памыляюся: на свята 3-га ліпеня чыноўнікі сюды заглядваюць, але толькі дзеля таго, каб падзівіцца на ашчаслівлены імі народ. Не так даўно яшчэ за гэты святочны дзень распіваліся тоны гарэлкі, напоі якой падвозіліся проста да стадыёна.

А вось арганізаваць у раёне хаця б адзіную футбольную каманду нашай уладзе яўна не па сілах. Тым больш правесці чэмпіянат раёна сярод сваіх арганізацый. Сёння гэта насамрэч не так і проста. Увядзіце сабе, што ніводная раённая арганізацыя Бешанковіцкага раёна не набярэ ў сваіх штатах дзесятка здаровых мужыкоў, якія б змаглі паўтары гадзіны пазабаўляцца на полі з мячыкам.

У нашым раёне ёсць цэлы аддзел ідэалагічных работнікаў, але няма ніводнага трэнера па футболе, які б мог рэгулярна займацца з дзецьмі. Што гэта, як не яўны перакос мазгоў. Нашы ідэолагі шукаюць ворагаў яўна не там, дзе трэба. Наш галоўны вораг – алкаголь, і ён упэўнена распаўляецца з раёнам. Колькасць тых, хто вядзе здаровы лад жыцця, у раёне ў разы меншая за колькасць алкаголікаў. Раён кожныя два гады змяншаецца на тысячу чалавек. А тыя, хто трымае ўладу, заспакойваюць нас. Маўляў, асноўныя эканамічныя паказчыкі ў нас высокія, галоўныя сацыяльныя стандарты ў нас выконваюцца.

У Беларусі будуюцца лядовыя палацы, біятлонныя комплексы, лыжныя трасы. Худа-бедна, але нехта там займаецца. Бешанковіцкі раён вымірае. Тут няма нават адной футбольнай каманды.

**Г.Станкевіч**

## А БЫЛО ВЯЛІКАЕ СЯЛО…

*А было вялікае сяло,*
*І жылі ў ім радасць і святло.*
*Хоць зрэдзьчас наведвала бяда –*
*Болькі ўсе загойвала вада.*

*Вып’еш той вясковае вады,*
*І знікае гора, быццам дым.*
*Прападае гора без слядоў,*
*Калі вернешся ў бацькоўскі дом.*

*Тут нязводна жыў дзіцячы смех,*
*У кожнай хаце – жартаў цэлы мех.*
*І хадзілі ў школку той пары*
*Хлопцаў ды дзяўчат дзясяткі тры.*

*А бацькі ўздымалі ўвысь калгас,*
*Хоць амаль не бачылі каўбас:*
*Тыдні два ад сілы мог за год*
*Разгавецца просты наш народ.*

*Соладка ці горка – ды жылі.*
*І для нас, нашчадкаў, збераглі*
*Ўсё, што тут стварыў калісьці Бог,*
*Пакуль раптам сам не занямог.*

*Раптам надарылася бяда:*
*Знікла цудадзейная вада,*
*І сышлі ўсе ў белы свет з сяла*
*Сцежкаю, што ў камунізм вяла.*

*Хоць бацькі тут дажывалі век,*
*Ды кудысь прапаў дзіцячы смех.*
*А само вялікае сяло*
*Пакрысе на могілкі сышло.*

**Г.Станкевіч.**

## “КРЫВІНКА” У ІНТЭРНЭЦЕ

Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/kryvinka.html каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.

## АБ’ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Крывінка» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Крывінка».***

***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

НАША ЖЫЦЦЁ

# ВАКАНСІЙ ШМАТ, А ПРАЦАЎЛАДКАВАЦЦА ПРАБЛЕМАТЫЧНА

Усе працы добрыя, выбірай на густ? Але, падобна, рынак працы Віцебшчыны сёння так не лічыць. Структурны і тэрытарыяльны дысбаланс попыту і прапановы стварае сітуацыю, калі агульная колькасць вакансій у некалькі разоў перавышае колькасць беспрацоўных, а знайсці падыходзячае месца беспрацоўнаму не менш цяжка, чым наймальніку кампетэнтнага кандыдата на вакансію. Не апошнюю ролю ў гэтым адыгрывае і неадпаведнасць прапанаванай заработнай платы запытам прэтэндэнтаў, прычым, як тых, хто мае рабочую спецыяльнасць, так і высокакваліфікаваных спецыялістаў, у тым ліку з вышэйшай адукацыяй. Калі казаць пра «сярэднюю тэмпературу па бальніцы», то, паводле аператыўных дадзеных камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне аблвыканкама, на 1 чэрвеня на ўліку службы занятасці знаходзіліся 6,5 тысячы чалавек, у тым ліку 3,9 тысячы беспрацоўных. А заяўленых прадпрыемствамі і арганізацыямі вакансій было 6,9 тысячы.

Найбольшая колькасць беспрацоўных на гэтую дату было зарэгістравана ў Віцебску (1150 чалавек), Аршанскім (613), Полацкім (381) раёнах і Наваполацку (437). Следам ідуць Лепельскі (150 беспрацоўных), Пастаўскі (146), Віцебскі (144), Гарадоцкі (93) і Шумілінскі (91) раёны. Менш за ўсё ў службу занятасці звяртаюцца жыхары Лёзненшчыне, што ў агульным-то вытлумачальна. Традыцыйна лёзненцы, калі няма працы дома, шукаюць яе ў Смаленскай вобласці (да Рудні 18 км). Да пачатку лета статус беспрацоўных там мелі 26 чалавек пры 106 вакансіях, а усяго са студзеня па садзейнічанне ў пошуку працы звярнулася 130 чалавек, з іх 103 (у тым ліку 81 беспрацоўны), былі працаўладкаваны. Для параўнання: у службу занятасці Чашніцкага раёна звярнуліся 697 чалавек, якія шукаюць або жадаючых памяняць працу, Пастаўскага - 620, Глыбоцкага - 584, Шаркаўшчынскага - 397, Сенненскага - 367, памежных з РФ Дубровенскага - 166, Расонскага - 171 чалавек.

Каму ж сёння цяжэй за ўсё знайсці працу, а каго чакаюць працадаўцы? Аналіз попыту паказвае, што рынак працы вобласці арыентаваны на працоўныя прафесіі, іх доля ў банку вакансій складае больш за 81%.

Топ-5 запатрабаваных рабочых спецыяльнасцяў: вадзіцель аўтамабіля, швачка, прадавец, трактарыст, муляр.

Кіроўца аўтамабіля

Самымі запатрабаванымі на сённяшні дзень апынуліся вадзіцелі аўтамабіля - 469 вакансій па вобласці на 104 беспрацоўных суіскальнікі (дадзеныя на 2013/06/01). Заяўкі ў агульнарэспубліканскі банк вакансій за год падалі 239 прадпрыемстваў. Вось, да прыкладу, некалькі свежых.

Аўтобуснаму парку № 2 Полацка патрабуюцца 24 такія работнікі, Віцебскаму мясакамбінату - 14, ААТ «Полацк-Шкловалакно» - 8, Віцебская універсальная база запрашае 5, Наваполацкая бальніца, спецаўтабаза Віцебска і «АТП-21» (Бешанковічы) - па 4, ААТ « Цітава »Мёрскага раёна, Бешанковіцкага райпо, Віцебскае трамвайна-тралейбуснае ўпраўленне шукаюць па 3 такіх работнікі. Заробак названыя прадпрыемствы прапануюць ад 2 млн. да 4,7 млн. рублёў. Ніжняя планка - 1,4 млн. (Віцебскі РВЭС, кіроўца 3-га класа), верхняя - 8 млн. рублёў (Дрэтунскі лясгас, катэгорыі С, Е, маніпулятар).

Швачка

У гэтай прафесіі праца знойдзецца заўсёды. Толькі ў Віцебску 11 прадпрыемствам не хапае 122 швачкі. Усяго ж па вобласці 339 вакансій, а беспрацоўных, якія маюць такую спецыяльнасць, зарэгістравана 47. Прынята лічыць, што асноўная прычына дэфіцыту швачак - нізкая зарплата пры вялікай нагрузцы. Аднак гэта не заўсёды так. Напрыклад, фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі» гатовая плаціць швачцы з прафесійна-тэхнічнай адукацыяй 4 млн., «Віцяблянка» - 3,5 млн., «Лэдзі гранд" - 3 млн. рублёў. Аплата здзельна-прэміяльная.

Прадавец

На таварным рынку заўсёды ёсць рух, і заўсёды патрэбныя спецыялісты, гатовыя прадаваць або кансультаваць. Яшчэ адна прычына павышанага попыту на прадаўцоў - высокая цякучасць кадраў. Абласны банк вакансій на пачатак чэрвеня налічваў 277 вакансій. Востры недахоп іх адчуваюць раённыя спажывецкія грамадствы, да прыкладу, Докшыцкае гатова працаўладкаваць 11 чалавек. Ёсць незанятыя працоўныя месцы і ў гарадскім гандлі. 10 прадаўцоў патрабуюцца ТАА «Ресттрэйд» (Полацк), 9 - ААТ «Базіс-Наваполацк», 5 - ААТ «Ніка» (Віцебск). Ацэньваюць працу работніка прылаўка названыя прадпрыемства ад 2,5 млн. да 4 млн. (гэта максімум і па іншых вакансіях) рублёў. Мінімальныя 1,4 млн. прапаноўваў прадаўцу 4-га разраду Бярэзінскі запаведнік.

Трактарыст

На кожнага беспрацоўнага трактарыста на Віцебшчыне прыходзіцца 7 вакансій. Толькі за першы тыдзень чэрвеня 53 арганізацыі вобласці падалі заяўкі ў агульнарэспубліканскі банк на 105 месцаў. Вядома, адбіваецца сезон: праца ў сельгасарганізацыях кіпіць, і людзі, якія ўмеюць кіраваць жалезным канём, на вагу золата. Але пры такой запатрабаванасці ўзровень прапанаванай ім заработнай платы выглядае па меншай меры дзіўна.

Як пераканаеш выпускніка школы вучыцца на механізатара, калі, скажам, СРСУ-3 (Наваполацк), Сенненскі і Шумілінскі райаграсэрвісы ўлісце прапановы такога спецыяліста паказваюць зарплату 1,8 млн. рублёў? ПУП «АграВітВін» (Бешанковіцкі раён) гатова даць трактарысту дом, Шаркаўшчынскага ААТ «Буевщина» і агротехсервис - службовае памяшканне. Але ці будуць жадаючыя працаваць за 2-2,5 млн. рублёў мець патрэбную кваліфікацыю? Бо паважаючы сябе трактарыст ведае сабе цану. Ведаюць яе і ў «Лаўжанскім» Шумілінскага раёна, Мазалаўскай ПМС Віцебскага раёна, Полацкім аграсэрвісе, куды запрашаюць трактарыстаў на 4 млн. рублёў у месяц, на Полацкім (5 млн.) і Шаркоўшчынскім прадпрыемствах меліярацыйных сістэм (6 млн.).

Муляр

Як сказаў знаёмы будаўнік, усё чагосьці вартыя муляры даўно адправіліся ў Расію і зарабляюць там у сярэднім 2 тыс. даляраў у месяц. Не трэба далёка ездзіць: муляроў запрашаюць будаўнічыя арганізацыі Мінска на 0,8-1 тысячу і 1,5 тысячы долараў у месяц. А вось дадзеныя аб вакансіях і прапанаванай заработнай плаце муляроў ў Віцебскай вобласці: Ушацкая ПМК-66 - 1,4 млн. рублёў, СРСУ-3 (Наваполацк) - 1,8 млн., Сенненскае раённае прадпрыемства ЖКГ - 2 млн., Аршанская птушкафабрыка - 3 млн., ПМК-52 (Докшыцы) - 4 млн., «Вицебскэнергабуд» - 4,5 млн. рублёў. На гэтым фоне вылучаецца толькі ААТ «Сцяг Перамогі Агра» Пастаўскага раёна, якое прапануе муляру 6 млн. рублёў.

Пры выбары будучай спецыяльнасці толькі некаторыя кіруюцца кан'юнктурай рынку. Часта выбар робіцца сэрцам (гуманітарная адукацыя, дызайн, рэклама) або пад уплывам моды (юрысты, эканамісты, бухгалтары), адсюль лішак спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. Спіс вакансій, напрыклад, упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Віцебскага гарвыканкама змяшчае 47 лістоў прапаноў для рабочых і ўсяго 19 для служачых. Прапаноў для юрысконсультаў там усяго 4. Заработная плата ад 2 млн. (праца ў офісе) да 4 млн. рублёў (камандзіроўкі). Для эканамістаў з вопытам працы - 1 (3,5 млн. руб.), Бухгалтараў - 8 (1,8-3,7 млн. руб.), Галоўных бухгалтараў - 2 (3-3,5 млн. руб.), дызайнераў - 1 (2 млн. руб.), спецыялістаў па маркетынгу - 3 (2,5-3,5 млн. руб.). А для інжынераў розных профіляў - 29.

Топ-5 запатрабаваных служачых: інжынеры, урачы, медсёстры, ветэрынарныя ўрачы, заатэхнікі.

Інжынеры

Сёння менавіта яны самыя запатрабаваныя ў галіне спецыялісты з вышэйшай адукацыяй. На ўліку службы занятасці 37 чалавек з дыпломам інжынера, незанятых працоўных месцаў для іх - 123. Заработная плата ў многіх выпадках пакідае жадаць большага. Напрыклад, КУСГП «Пестуніца» (Віцебскі раён) галоўнаму і інжынеру па ахове працы гатова прапанаваць толькі 1,4 млн. рублёў у месяц, Шумілінскае прадпрыемства ЖКГ інжынеру-энергетыку - 2,1 млн., а Шумілінскі лясгас інжынеру па лесааднаўленню і меліярацыі - 2,2 млн. Філіял Віцебскага кандытарскага камбіната "Віцьба» у Полацку шукае інжынера-тэхнолага харчовай прамысловасці на 3 млн. рублёў у месяц, Віцебскі мясакамбінат на такую ж зарплату - інжынера-праграміста з вопытам працы. Больш за 6 млн. рублёў прапаноўвалі ў траўні толькі тры прадпрыемствы. Аршанскі ОМЗ «Металіст» - галоўнаму інжынеру (6,5 млн. руб.), КБ "Дысплей" - галоўнаму інжынеру з вопытам работы намеснікам не менш за 5 гадоў (6,9 млн. руб.), СТАА «БелТытан» (Наваполацк) - інжынеру-тэхнолагу з вышэйшай адукацыяй, веданнем англійскай мовы, стажам працы на пасадзе інжынера-тэхнолага на аналагічным вытворчасці не менш за 5 гадоў (8,5 млн. руб.).

Лекары, медсёстры

Медыкі ў дэфіцыце ў горадзе і ў вёсцы. Усяго па вобласці не хапае 82 урачы, а зарэгістравана ў службе занятасці пяцёра, медсясцёр - адпаведна 50 і 10 чалавек. На жаль, гэтая важная прафесія ставіцца ў нас сёння да нізкааплатнай. У цэнтральнай паліклініцы Оршы ёсць вакансіі неўролага і кардыёлага з заработнай платай менш 1,9 млн. рублёў, крыху больш за (2 млн.) там прапануюць ўролага, 2,3 млн. - хірурга. Віцебская гарадская цэнтральная паліклініка абяцае ўчастковаму тэрапеўту 3,5 млн. руб. Больш у чэрвені прапаноўваў толькі Бабініцкі псіханеўралагічны дом-інтэрнат ўрачу-псіхіятру (4,34 млн. руб.). А ў траўні - Віцебская гарадская бальніца хуткай медыцынскай дапамогі ўрачу-спецыялісту па УГД са стажам працы не менш за 3 гадоў (4 850 000 .).

Ветэрынарныя ўрачы, заатэхнікі

Заатэхнікі ў паслугах службы занятасці на сённяшні дзень не маюць патрэбу, на ўліку няма ні аднаго чалавека. Затое ў банку вакансій - 29 месцаў. Моладзь, усё яшчэ разважае, на каго вучыцца, каб не застацца потым без працы? Заробак абяцаюць - ад 2 (без вышэйшай адукацыі) да 3 млн., галоўны заатэхнік - да 4 млн. рублёў. Ветэрынарным лекарам у гаспадарках прапануюць ад 1,4 млн. да 5 млн. (галоўнаму - да 7 млн.) рублёў, а ў ветэрынарнай аптэцы ў Віцебску - 1,5 млн. рублёў.

Выгадная для сушукальнікаў сітуацыя склалася і ў некаторых іншых сферах. Не павінна паўстаць асаблівых цяжкасцей пры пошуку працы ў бетоншчыкаў, маляроў, экскаваторшчык і іншых будаўнікоў, жывёлаводаў, кухараў, зборшчыкаў абутку, слесараў, у тым ліку па рамонце аўтамабіляў, электраманцёраў па рамонце абсталявання. А таксама ў леснікоў (іх, дарэчы, у службе занятасці таксама не зарэгістравана, а вакансіі ёсць, прычым не адна, а 24), выхавацеляў у дзіцячых садках, фельчараў. Ім, па меншай меры ў бліжэйшы час, праца гарантавана.

**Таццяна Гарнова**
**"Народнае слова"**

ПРАБЛЕМА ГОДА

# ЦІ ЗАКРАНЕ АФРЫКАНСКАЯ ЧУМА БЕШАНКОВІЦКІ РАЁН?

Так, тое цалкам рэальна. Для інфекцыі, як вядома, межаў не існуе. Толькі зладжанымі дзеяннямі ўсіх службаў можна неяк супрацьстаяць гэтай інфекцыі. Ужо вядома, што афіцыйна прызнаныя выпадкі захворвання свіней на афрыканскую чуму ў Беларусі ў Гародненскай вобласці. Вядомыя выпадкі пра ліквідацыю хворых свіней у насельніцтва і бліжэй, у Віцебскім раёне. Ходзяць чуткі пра якіясьці праблемы і на комплексе ў Машканах у суседнім Сенненскім раёне. Адтуль да нашага "Свіціна" ўжо рукой падаць.

Ветэрынарны ўрач-эпізатолаг Бешанковіцкай райённай ветэрынарнай станцыі Васіль Масько крайне заклапочаны сітуацыяй. Ен кажа пра недастатковую інфармацыю, якая даходзіць да станцыі. Штотыдзень на станцыю з Віцебска прыходзяць паперы. У іх стаіць адно і тое ж: "Узмацніць кантроль." А вось пра канкрэтныя выпадкі, дзе ўзнікла захворванне і адкуль трэба паставіць пасты – нічога няма.

Між тым, выстаўленне пастоў – гэта краевугольны камень у сістэме барацьбы з афрыканскай чумой. У суседняй Украіне ў Міністэрстве ветэрынарыі ёсць нават спецыяльная служба, што мае адмысловую форму адзення. Ветэрынары стаяць на пастах са зброяй. І калі ў населеным пункце карантын, то туды незаўважна і мыш не праскочыць. А ў нас могуць быць выпадкі, калі дзесьці хтосьці праедзе.

Васіль Мікалаевіч кажа, што ён шмат разоў казаў кіраўнікам раёна пра тое, што вакол Свіцінскага комплекса трэба зрабіць двайную абарону. Каб ні на колах аўтамабіляў, ні праз дзікіх жывёл зараза на комплекс не трапіла. Толькі замест гэтага ветэрынарную службу пасылаюць у Бачэйкава рабіць выгарадку.

У заключэнне Васіль Масько даў параду насельніцтву, якое трымае свіней. "Пакуль у нас усё спакойна, але могуць быць усякія нечаканасці. Калі ў вас тры ці чатыры галавы свіней, не сядзіце склаўшы рукі. Трэба пакрысе ад іх вызваляцца."

Па паведамленнях БЕЛТА, дзяржаўная ветэрынарная служба Беларусі заклікае жыхароў сяла не купляць камбікорм у прадпрымальнікаў. З такім зваротам да сельскіх жыхароў звярнуўся галоўны дзяржаўны інспектар Віцебскай вобласці, начальнік аддзела ветэрынарыі і ветэрынарнай дзяржаўнай інспекцыі камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Козак.

"Некаторыя нядобра-сумленныя прадпры-мальнікі нелегальна завозяць з-за межаў Беларусі ў нашу краіну камбікорм, які можа ўтрымліваць ўзбуджальнік гэтай або іншых інфекцый. Натуральна, дакументаў, якія пацвярджаюць якасць і бяспеку гэтай прадукцыі, дазволу дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду Мінсельгасхарча ў іх няма, затое цана значна ніжэй ", - адзначыў Аляксандр Козак. Ён падкрэсліў, што выкарыстанне такіх камбікармоў можа прывесці да інфекцыйных захворванняў.

З улікам сітуацыі, якая склалася Аляксандр Козак звярнуў таксама ўвагу насельніцтва на той факт, што вірус АЧС можа перадавацца праз мяса і мясныя прадукты, таму іх варта набываць толькі ў гандлёвай сетцы і на гандлёвых радах рынкаў, куды прадукцыя паступае толькі пасля правядзення экспертызы. Асобам, хто вырошчвае свіней, рэкамендуецца не наведваць падворка грамадзян, якія таксама ўтрымліваюць свіней, і абмежаваць наведванне іншымі людзьмі уласных. У выпадку неабходнасці забою свіней для асабістага карыстання неабходна выклікаць для агляду жывёл ветэрынарнага спецыяліста, а пасля правесці ветдаследванне мяса і ўнутраных органаў. Перад выкарыстаннем у ежу варта правяраць у ветлабараторыі і прадукты забою дзікоў.

Афрыканская чума свіней (хвароба Мантгомеры) - кантагіёзнае віруснае захворванне хатніх і дзікіх свіней. Захворванне перадаецца пры прамым кантакце здаровых і хворых жывёл, праз прадукты з свініны, абцугамі і механічна (транспартнымі сродкамі, пры перамяшчэнні жывёл). Вакцыны няма. Амаль усе пагалоўе хворых свіней гіне. Жывёлы з падазрэннем на захворванне знішчаюцца. Для чалавека АЧС бяспечная.

**Г.Станкевіч**

ПРАТЭСТ

# ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ — СУПРАЦЬ МЫТНАГА САЮЗА

**27 чэрвеня па ўсёй Беларусі прайшоў папераджальны страйк індывідуальных прадпрымальнікаў, незадаволеных новымі ўмовамі гандлю ў рамках Мытнага зьвязу. Страйкавалі і ў Віцебску.**

Рэчавыя рынкі часткова ці цалкам не працавалі практычна ўва ўсіх абласных цэнтрах, а таксама ў Баранавічах, Полацку, Касьцюковічах ды іншых гарадах.

Найбольш маштабным пратэст быў у Менску — акцыю падтрымалі Чэрвеньскі рынак, гандлёвыя цэнтры «Паркінг», «Люстэрка», «Манетка», «Уручча», шапікі на тэрыторыі, прылеглай да гіпэрмаркету «Бігз», на стадыёне «Дынама». Эпіцэнтрам прадпрымальніцкага незадавальненьня стаў рынак «Ждановічы», дзе агулам спынілі працу блізу паўтара тысячы павільёнаў. У ходзе акцыі затрымалі лідэра аб'яднаньня «Пэрспэктыва» Анатоля Шумчанку і шэраг незалежных журналістаў. Сярод апошніх быў і наш карэспандэнт Ігар Карней.

Масавасьць акцыі зьдзівіла нават ініцыятараў яе правядзеньня. Зрэшты, як сказаў з прыступак гандлёвага цэнтру «Сьвет моды-1» на рынку ў Ждановічах адзін зь лідэраў прадпрымальніцкага руху Анатоль Шумчанка, новыя ўмовы гандлю, якія сталіся вынікам сяброўства Беларусі ў Мытным зьвязе, тычацца занадта вялікай колькасьці людзей, каб рабіць выгляд, што нічога не адбываецца.

Найперш нараканьні выклікае тэхнічны рэглямэнт, які ўступае ў сілу 1 ліпеня і тычыцца перадусім рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасьці: «Тэхнічны рэглямэнт — гэта рашэньне беларускага боку, ініцыятар — Расея. Беларускі бок у 2011 годзе зьняў з нас усе патрабаваньні: мы працавалі спакойна, пакуль ня ўляпаліся ў гэты Мытны зьвяз. Як толькі ўляпаліся — так і панеслася. Дарэчы, ініцыятарам палажэньня была Расея, распрацоўваў Казахстан, а пакутуюць беларусы. Вось вам і закулісьсе Мытнага зьвязу. Паколькі ў іх ніякія законы ня дзейнічаюць, там сапраўдны бардак. Таму яны папросту не зьвяртаюць увагі на такіх, як мы. Адзіны выхад — гэта вывесьці прадпрымальнікаў розьнічнага гандлю з-пад дзеяньня дадзенага тэхнічнага рэглямэнту.

Хай яны, краіны Мытнага зьвязу, ствараюць агульныя органы праваапарадку, хай яны на межах агульнага рынку Расеі і Казахстану ловяць сваіх кантрабандыстаў, глядзяць, каб у іх былі гэтыя маркі, каб захоўвалася якасьць. Хай у стэпах Казахстану і на Далёкім Усходзе ўсё гэта робяць. Але мы не павінны цярпець з-за таго, што яны напісалі законы (у сябе не выконваюць — плюнулі), і мы тут давай, танцуй. Пад пагрозу нацыянальны бізнэс паставілі, перавярнуўшы ўсё з ног на галаву».

Незадаволенасьць прадпрымальнікаў патлумачыў Анатоль Шумчанка — маўляў, пастанова аб нібыта падаўжэньні тэрміну гандлю паводле ранейшых схемаў існуе толькі на словах:

«Паслухайце: вы ж пісьменны чалавек, чыноўнік, які працуе ва ўладзе. Не дэманструйце прылюдна хоць свой узровень. Гэтая пастанова не прайшла юрыдычнай экспэртызы ў Міністэрстве юстыцыі. Навошта вы нам яе зачытваеце?»

На падтрымку калегу прыйшоў Аляксандар Таўстык. Ён безапэляцыйна заявіў: сёньня вырашаюцца ня стольки ўмовы тэхнічнага рэглямэнту, а тое, куды заўтра могуць рушыць незадаволеныя прадпрымальнікі: «Як прадпрымальнік падтрымаю Шумчанку. Фактычна мы абмяркоўваем наступнае: альбо мы працуем на 1 ліпеня ў нармальных умовах, у гэтых будынках, альбо мы выходзім на Кастрычніцкую плошчу (воклічы з натоўпу — „Усё правільна!“). Вы хочаце зараз сказаць, што ў Пуціна ў Расеі чысты бізнэс, ня шэры, што там усе маюць сэртыфікаты? А з чым вы тады зараз прыйшлі да нас? Вы зараз прачыталі пра нейкія нацыянальныя сэртыфікаты. Мы зараз працуем у адзіным Мытным зьвязе. І мы ведаем, што цяпер ёсьць новы ўзор сэртыфікатаў для краінаў Мытнага зьвязу. А вы зноў павяртаеце нас да нейкага нацыянальнага сэртыфікату. Ідзіце пачытайце што-небудзь разам з Кабяковым».

Прадпрымальнікі абураныя, што беларускія ўлады традыцыйна ставяць іх перад фактам, не спрабуючы выпрацаваць агульную пазыцыю з тымі, каму ў новых умовах рэальна працаваць. Так, спадарыня Ніна кажа, што чыноўнікі заўсёды ўспрымаюць гандляроў як клясу, якая зусім ня ўпісваецца ў сыстэму пдянавай эканомікі. А таму і раіцца з дэструктыўнымі элементамі не зьбіраецца: «За што мяне, маіх сяброў так караюць нашы чыноўнікі? Проста таму, што яны нас лічаць за быдла. Я калісьці гандлявала ў Расеі. Прыходзіць АБЭП, падатковая: добры дзень, вашы дакумэнты. Адказваю: дзяўчаты, я зь Беларусі. Яны перапытваюць: а вы заплацілі падаткі? Не, кажу. Давайце, маўляў, заплацім. Плачу па нашых грашах 50–100 тысяч рублёў — і працую далей. Няма праблемаў, да пабачэньня, усе міла разышліся. А нашы прыходзяць — я стаю, калачуся, у мяне дрыжыць голас, стаю перад імі навыцяжку. Пры тым, што гэта мая ўласнасьць, я на гэты тавар зарабляла ўсё жыцьцё, мне ж ніхто ня даў першапачатковага капіталу. Я б шмат чаго нагаварыла, але, на жаль, у нашай краіне лепей маўчаць…»

Пры канцы акцыі Анатоля Шумчанку запрасіў на гутарку намесьнік начальніка РАУС Цэнтральнага раёну сталіцы Шарамецьеў. Прадпрымальнік адмовіўся размаўляць зь міліцыянтам сам-насам, сказаўшы, што калі ёсьць намер яго затрымаць, то можна гэта зрабіць і прылюдна. Той адступіў.

У суправаджэньні журналістаў Свабоды, «Народнай волі» і парталу Tut.by спадар Шумчанка даехаў да гандлёвага цэнтру «Паркінг», але пры пасадцы ў ліфт усіх затрымалі. Журналістаў пасьля дзьвюх гадзін ідэнтыфікацыі асобы ў Цэнтральным РУУС выпусьцілі, Шумчанку некалькі да вечара пратрымалі ў пастарунку, а пасьля ў закрытым рэжыме асудзілі на 5 сутак адміністрацыйнага арышту.

*"Радыё Свабода"*

ПОМНІЦЬ!

# «СЬВЕТЛЫ БЫКАЎ»

**19 чэрвеня — сьветлы дзень. Мы звычайна ў гэты дзень ішлі да Васіля Быкава, віншавалі яго з Днём народзінаў. Я бачыў, што Быкаў і сам любіў такія спатканьні. Ён пачуваўся ў Фронце душэўна ўтульна. Атмасфэра ласкі і дабрыні, якая атуляла яго і якая ўвогуле была тады ў сядзібе БНФ, вельмі імпанавала яму. Усе жылі, як на крыльлях. Ужо была Незалежнасьць (наша мара і наша перамога), была беларуская школа, вольны друк, змагаліся за добрае будаўніцтва сваёй краіны.**

Для многіх з нас гэта былі гады душэўнага шчасьця. Для Васіля Уладзімеравіча, відаць, таксама. Калі ён бываў у нас у сядзібе, абліччa яго станавілася лагодным, а вочы сьвяціліся. Яму было добра.

У 1994 годзе яму споўнілася 70 гадоў. Грамадзкасьць і афіцыёз, і мы ў Фронце, рыхтаваліся кожны па-свойму тое адзначыць. Але Быкаў (які ўвогуле не любіў урачыстых афіцыёзаў) адмовіўся ад ушанаваньня свайго юбілею і ў Саюзе пісьменьнікаў, і ў іншых месцах. Ён сказаў, што будзе толькі ў Фронце, у сядзібе БНФ. І я разумеў, чаму ён так вырашыў.

Прыйшла моц людзей. Але не было ні адной чужой афіцыёзнай фізіяноміі, ніводнай фальшывай прамовы. Сабраўся цьвет нашай творчай нацыі, былі цёплыя позіркі і словы, простыя шчырыя дачыненьні і народныя сьпевы. Думаю, што было якраз тое, што трэба было гэтаму вялікаму чалавеку для добрасьці яго шчырай беларускай душы.

Празь 10 гадоў гэтыя ж самыя людзі праводзілі яго ў апошні шлях. Ужо перамяніўся сьвет. Цемра, хамства, гразь і нянавісьць віравалі вакол, імкнуліся зганьбіць ягоную сьмерць. Гэбоўскія бесы выскоквалі на дарогу, спрабавалі танцаваць перад яго труной. Эфір гэбісцкіх рацый поўніўся матам і подлымі камандамі на подлыя справы (гэта чулі сьведкі).

Нічога ня выйшла ў цемрашалаў. Абвалілася ў іх усё. Наша сіла мацнейшая. Сьветлым і магутным быў апошні шлях Васіля Быкава.

Быкаў мог дажыць да 90 гадоў. Ён мог яшчэ быць разам з намі. Мы вельмі перажывалі, што ён адышоў і ведаем ягоных скрытых забойцаў. І ўсё ж такі Боская воля лепшая, чым нашыя меркаваньні.

Дажываючы да 90, гэты вялікі чалавек вымушаны быў бы з году ў год адчуваць павелічэньне нянавісьці, брыдоты, ілжы вакол свайго сьветлага імя. Зьдзекваліся б зь яго старасьці так, як рабіў гэта адзін вусаты мярзотнік у час яго сьмерці, аплёўвалі б яго мінулае, яго творчасьць і славу. Гэта было б, бо такая прырода падлюг, што цяпер дасягнулі ўлады.

За сябе мне сказаць проста. За 25 гадоў у палітыцы, вакол майго арганізму ўжо даўно стварылася стальная браня. І няма на сьвеце такой ілжы з боку нізкіх, якая б мяне раніла ці выбіла б з раўнавагі. Нездарма яны захлёбваюцца — гэта ад бясьсільля.

Не сумняваюся, што ўсё перамог бы і Быкаў, але... прапусьціўшы праз сэрца. Бо такая прырода сьветлых людзей.

Сьмерць Быкава выклікае адчуваньне трагедыі і горычы ня толькі таму, што ворагі прысьпешылі яго паміраньне і ён мог яшчэ жыць, але найперш таму, што сьветлы Быкаў пайшоў, а акупанцкая чэрнь засталася, віруе, кіруе, і ён ня ўбачыў яе канца.

Ён убачыць яе зь нябёс. Тут вельмі розныя сутнасьці. Нечысьці ў індывідуальным выяўленьні абавязкова прыходзіць натуральны канец. Нечысьць нічога не пакідае для будучыні.

Тым часам імя і творчасьць Быкава належаць вечнасьці, бо адлюстравалі яе ў вобразах, думках і характве. Творчасьць Быкава — гэта сусьветны ўзровень, пазнаньне для ўсяго чалавецтва.

Гэта будзе ўсьвядомлена моцна, калі моцнай будзе Беларусь, тая сьветлая, культурная і магутная народная Беларусь, за якую змагаўся Народны Фронт.

**19 чэрвеня**
**Зянон ПАЗЬНЯК**

БЕЛАРУСЬ -- ЕЎРАЗЬВЯЗ

# У БРУСЭЛІ ЧАКАЮЦЬ ВЫЗВАЛЕННЯ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

Еўрасаюз у аднабаковым парадку зняў візавыя санкцыі з міністра замежных спраў Уладзіміра Макея, і гэта пры тым, што ў беларускіх турмах застаюцца палітвязні. Што стаіць за аднабаковым рашэннем Еўрасаюза і да чаго можа прывесці гэтая саступка? «Беларускі партызан» пагутарыў з палітолагам, намеснікам старшыні Руху "За Свабоду" Алесем Лагвінцом.

***- Афіцыйны Мінск не зрабіў ні аднаго кроку насустрач Еўразвязу, які ў аднабаковым парадку адмяніў візавыя санкцыі ў дачыненні да Уладзіміра Макея. Чаму?***

- Думаю, рэжым пастараўся паднесці некаторыя факты як вялікі прагрэс: не дадзены ход справах супраць Пачобута і Булгакава, маюцца факты візітаў Палецкіса і Міятавіч, апошняя, дарэчы, была неўязны ў Беларусь. Зразумела, што сітуацыя ў краіне застаецца стабільна цяжкай, але рэгіянальны кантэкст, мабыць, настойлівыя сігналы з Мінска падштурхнулі краіны ЕС зрабіць саступку ў працэдурным пытанні. Гэты крок, хутчэй, варта разглядаць як праява жадання ЕС стаць больш прыкметным у Беларусі.

***- Візавыя санкцыі Еўрапейскага саюза ў дачыненні да Уладзіміра Макея прыпыненыя на той час, пакуль ён займае пасаду міністра замежных спраў Беларусі. І зроблена гэта з мэтай спрасціць дыпламатычныя кантакты паміж ЕС і Беларуссю. Так тлумачыць сваю пазіцыю Еўрасаюз. Наколькі лагічным Вам уяўляецца гэта рашэнне?***

- Рашэнне неадназначнае. Бачна, што ў ЕС аддаюць перавагу палітыцы ўцягвання, а ня ізаляцыі. Гэтая тэндэнцыя прасочваецца і ў палітыцы ЕС у дачыненні да Украіны і іншым краінам Усходняга партнёрства, дзе таксама хапае палітычных праблем і парушэнняў правоў чалавека. За ўплыў на краіны УП ідзе канкурэнцыя паміж ЕС і Расіяй. Для ЕС важна захаваць і пашырыць еўрапейскую перспектыву для нашага рэгіёну.

***- Вядомы палітолаг назваў адмену візавых санкцый паразай Еўропы: прыпыняючы санкцыі, Брусэль адмаўляецца ад прынцыповай пазіцыі па беларускім палітвязням. А, значыць, вагаецца і не ведае, што рабіць.***

- Параза Беларусі і яе грамадзян, у тым ліку і палітычных каментатараў, у тым, што многія любяць быць назіральнікамі і каментатарамі, а ня гульцамі. Працей за ўсё назапасіцца поп-корнам і глядзець на «бітву тытанаў». Варта глядзець фактах ў твар, а не кідацца лёзунгамі і абвінавачваннямі. Краіны ЕС найбольш паслядоўна і прынцыпова (прычым, хутчэй, больш паслядоўна, чым многія грамадзяне нашай краіны) аказваюць рознага роду падтрымку палітвязняў і іх сем'ям. ЕС пакуль не бачыць у Беларусі крытычнай масы, гатовай аказваць істотны ціск на рэжым і абараняць свае правы.

***- Брусэль зрабіў крок насустрач Мінску. Які ход у адказ гатовы зрабіць беларускі рэжым?***

- Усе чакаюць вызвалення палітвязняў. Гэты крок - лакмусавая паперка.

ГУЛЬНІ БЮРАКРАТАЎ

# ЯК ЗАБАРАНІЛІ, ТАК І ДАЗВОЛІЛІ

**Мясьніковіч дазволіў калоць сьвіней па-старому, калі на месцах, у тым ліку і ў Гарадоцкім раёне, не выканалі яго даручэнне аб "арганізацыі рэзу" у кожным аграгарадку. Фэрмэрскім і асабістым гаспадаркам вярнулі права самастойна забіваць сельскагаспадарчых жывёл на мяса.**

Адмысловая пастанова Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчаваньня апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале і ўступае ў сілу ад 14 чэрвеня.

Згодна з пастановай, дазваляецца да 1 студзеня 2014 года самастойна забіваць буйную і дробную рагатую жывёлу, сьвіней, коней для продажу мяса.

Аднак рабіць гэта можна толькі пад кантролем ветэрынара з правядзеньнем санітарнай экспэртызы.

Гэтай праблемай асабіста займаўся прэм'ер-міністар Міхаіл Мясьніковіч.

На пачатку году была прынятая пастанова, што забіваць жывёл з асабістых гаспадарак будуць у спэцустановах. Потым гэтае пытаньне разглядалася на нарадзе ва ўрадзе. 22 траўня Мясьніковіч даручыў павялічыць колькасьць пунктаў для зарэзу сельскагаспадарчых жывёл. То бок зрабіць «забойныя цэхі» у кожным аграгарадку. Пры гэтым прэм'ер запатрабаваў павысіць якасьць такіх паслуг ды зьнізіць кошты.

Амаль празь месяц Мясьніковіч выказаў незадаволенасьць «арганізацыяй рэзу». І вярнуў права прыватным гаспадаркам самім забіваць жывёл на мяса.

**"Радыё Свабода"**

АФРЫКАНСКАЯ ЧУМА

# ПОЛГОДА СКРЫВАЛИ АФРИКАНСКУЮ ЧУМУ СВИНЕЙ?

**Любопытный документ был опубликован 28 июня на сайте Национального правового портала. Речь идет о постановлении Минсельхозпрода №3, которое предоставляет главному ветврачу страны и его замам, главным ветинспекторам областей и их замам полномочия командовать губернаторами и иными местными руководителями в случае подозрения на или выявления очага африканской чумы свиней (АЧС).**

При подозрении на АЧС (перечисленные должностные лица) вправе давать обязательные для исполнения указания местным исполнительным и распорядительным органам о введении на территории соответствующих административно-территориальных единиц режима, аналогичного режиму в неблагополучном по АЧС пункте, с проведением соответствующих ограничительных мероприятий", - говорится в документе.

Аналогичные полномочия предоставлены ветврачам по указаниям "о введении в первой угрожаемой зоне режима, аналогичного режиму в неблагополучном по АЧС пункте, с проведением соответствующих ограничительных мероприятий", сообщает АФН.

В связи с последними событиями – речь идет о выявлении очага АЧС в Гродненской области – данный документ выглядит вполне закономерным: он позволяет ветеринарной службе приструнить тех губернаторов и начальников районного масштаба, которые по понятным причинам хотели бы повременить с введением карантина и началом весьма непопулярных мероприятий по устранению последствий АЧС, включая полную зачистку от свиней целых районов.

Постановление Минсельхозпрода вступает в силу через 15 дней после подписания. В этой связи особое любопытство вызывает следующий факт – документ был подписан еще 4 февраля 2013 года, а зарегистрирован на Национальном правовом портале – только 28 июня 2013 года (регистрационный номер 8/27636).

Такую способность Минсельхозпрода к пророчеству можно объяснить лишь тем, что в начале примерно около полугода назад в Беларуси уже были зафиксированы случаи АЧС и властям удалось избежать утечки информации (а с публикацией постановления решили повременить).

**«Белорусский партизан»**

АТРЫМАЦЬ ЗАРОБАК

# ПРАЦАЎНІКІ «ВЫБІВАЮЦЬ» ЗАРОБКІ ПРАЗ СУД

**Працаўнікі Круглянскага ільнозавода 20 чэрвеня падалі пазоў у суд Круглянскага раёна з патрабаваннем да адміністрацыі прадпрыемства выплаціць заробкі за красавік і травень, а таксама грошы на адпускныя.**

Жанчын, якія працуюць на прадпрыемстве, адправілі ў адпачынак і не пусцілі на працоўныя месцы 20 траўня, пасля таго, як яны калектыўна выступілі супраць закрыцця Круглянскага льнозавода. Да гэтага часу ім не выплацілі заробак за красавік і адпрацаваныя дні траўня, а таксама так званыя адпускныя грошы, якія павінны былі аддаць перад сыходам у вымушаны адпачынак.

Да падачы пазова ў суд жанчыны звярталіся па дапамогу ў пракуратуру ў Круглянскага раёна, аднак там іх не абнадзеілі ніякім чынам, сказалі, што завод усё роўна будзе зачынены.

Грамадская актывістка з Круглага Зінаіда Мілешчанка, якая дапамагае людзям адстойваць свае правы і складаць скаргі ў розныя інстанцыі, кажа, што людзі знаходзяцца проста ў адчаі.

«І ў мяне асабіста, і ў працаўнікоў льнозавода складваецца ўражанне, што раённыя ўлады ўсё робяць дзеля таго, каб не заплаціць работнікам завода за ліквідацыю іх працоўных месцаў ні капейкі.

Круглянскія ўлады не хочуць зачыніць завод і звольніць людзей згодна заканадаўства: своечасова папярэдзіць, выплаціць прадугледжаную законам дапамогу, ды паставіць на ўлік на біржу працы. Замест гэтага яны зачыняюць завод паэтапна. Жанчынам прапануюць часовую працу за 40 кіламетраў у Шклове, дзе яны змогуць адпрацаваць месяц-другі, а пасля зноў застануцца бяз працы. Улады проста хочуць прымусіць работніц льнозавода звольніцца па ўласнаму жаданню, каб не выплочваць грашовую дапамогу за страту працоўных месцаў.

Ім да гэтага часу не выплацілі заробак за красавік і травень, а таксама і адпускныя, хоць адпачынак у жанчын заканчваецца 25 чэрвеня. Я дапамагла працаўніцам льнозавода скласці і падаць пазоў у суд Круглянскага раёна, будзем чакаць, ці здолее ён абараніць іх правы».

Бальшыня працаўнікоў, якім пагражае звальненне, адпрацавалі на заводзе больш за 15 гадоў. Многія з жанчын знаходзяцца ў перадпенсійным узросце.

**«Вясна»**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ПРЭМІЯ БЫКАВА – У МАРАЧКІНА І ВАЙЦЮШКЕВІЧА

**19 чэрвеня на радзіме Васіля Быкава (у вёсцы Бычкі ва Ўшацкім раёне) адбылося ўручэнне сёлетняй прэміі "За свабоду думкі", заснаванай кіраўніком Руху "За Свабоду" Аляксандрам Мілінкевічам.**

У музеі-сядзібе Васіля Быкава адбылася традыцыйная сустрэча, прысвечаная памяці пісьменніка. Каля 60 чалавек прыехалі ў Бычкі, каб ушанаваць вялікага пісьменніка. Сярод іх - палітыкі Вячаслаў Грыб і Аляксандр Мілінкевіч, 1-ы сакратар амбасады Славакіі ў Беларусі Эрык Липтак, бард Андрэй Мельнікаў, а таксама грамадскія актывісты і прадстаўнікі мастацтва і культуры з усёй Беларусі. На мерапрыемства таксама прыйшлі прадстаўнікі адміністрацыі Ушацкага раёна і мясцовыя жыхары.

Прэміяй "За свабоду думкі" імя Васіля Быкава ў гэтым годзе ўганараваны два чалавекі – музыка Зміцер Вайцюшкевіч і мастак Алесь Марачкін.

Нагадаем, прэмія "За свабоду думкі" імя Васіля Быкава заснаваная лідарам Руху "За Свабоду" Аляксандрам Мілінкевічам у 2008 годзе. Прызначэннем прэміі з'яўляецца ўслаўленне моцы думкі і духу, плённай працы на ніве беларушчыны. Ідэя заснаваць яе ўзнікла пасля атрымання Мілінкевічам прэміі "За свабоду думкі" імя Андрэя Сахарава, якую ўручае Еўрапарламент.

Працы Алеся Марачкіна (псеўданім – Алесь Мара) захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у музеях і прыватных галерэях Беларусі, Польшчы, Германіі, ЗША.

Алесь Марачкін узнагароджаны медалём Францыска Скарыны за высокія дасягненні ў справе нацыянальнага адраджэння, прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа (1992). Двойчы адмовіўся ад ганаровага дзяржаўнага звання - "Заслужаны мастак БССР" у 1989 годзе, пратэстуючы супраць сістэмы дзяржаўнага патранату і кантролю за мастацтвам, і "Заслужаны мастак Рэспублікі Беларусь" у 1995 годзе на знак пратэсту супраць антыбеларускай і антыдэмакратычнай палітыкі Аляксандра Лукашэнкі.

Зміцер Вайцюшкевіч удзельнічаў у гуртах "Крыві" і "Палац". Цяпер ён лідар і кіраўнік гурту "WZ-Orkiestra". Гурт выконвае музыку ў стылі world music, рэтра, гарадскі шансон, рок, аўтарская песня. Прызнаваўся "Музыкам году" і "Выканаўцам году" на "Рок-каранацыі".

Шмат цёплых слоў у гэты дзень было адрасавана пісьменніку Васілю Быкаву. Яго сястра Валянціна распавяла, як да вайны Быкаў хацеў стаць мастаком і, хоць і быў самавук, праяўляў вялікі мастацкі талент. Але лёс склаўся так, што ён стаў мастаком слова.

Па словах Валянціны Уладзіміраўны, пісьменніку давялося нялёгка.

- Цэнзары не пакідалі яго ў спакоі, - адзначае сястра. - Усё таму, што ён пісаў праўду пра простых людзей, пра простых салдат, і гэтая праўда ніколі не падабалася начальству.

Ужо амаль 10 гадоў, як Быкава няма з намі. Нягледзячы на гэта, ён па-ранейшаму застаецца адным з самых папулярных беларускіх аўтараў. Што сведчыць: справа яго жыве.

Тое, што хвалявала Быкава ўсё яго жыццё - беларуская мова, незалежнасць і чалавечую годнасць - працягвае нас хваляваць і цяпер.

**www.pyx.by/bel/naviny/ruh/2989/**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку** 30.06.2013 у 18.20
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.